# Мэта 12-гадовай школы – павышэнне якасці навучання

**Барыс КРАЙКО,
дырэктар
Нацыянальнага
інстытута адукацыі
Міністэрства
адукацыі:**

— На першым з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь было вызначана, што асноўнай функцыяй школы з'яўляецца дзейнасць па фарміраванні якасцей, якія маюць індывідуальную і сацыяльна арыентаваную вартасць для асобы. Быў прызнаны неабходным пераход у школах Беларусі ад уніфікаванай да асобасна арыентаванай адукацыі. У структурных адносінах меркавалася стварэнне ступеньчатай сістэмы адукацыі, з разнастайнымі тыпамі ўстаноў, спалучаных у дынамічную структуру з прадуманымі сувязямі.

У адпаведнасці з гэтым планавалася правядзенне карэкцыі зместу адукацыі, якое дыктавалася трыма сур'ёзнымі супярэчаннямі:

– паміж структурай, зместам адукацыі і рэальным жыццём;

– паміж навуковасцю зместу і яго даступнасцю па ўзроставых этапах;

– паміж аб'ёмам зместу адукацыі і вучэбным часам, які выдзяляецца для яго засваення.

Ішла размова і пра тэхналогіі навучання, якія неабходна пабудаваць з пазіцыі актывізацыі самастойнага пошуку вучнямі адказаў на пастаўленыя пытанні і ажыццяўлення дыферэнцыраванага навучання.

Асноўнымі прынцыпамі пабудовы структуры і зместу адукацыі вызначаліся наступныя:

– фундаментальнасць у спалучэнні з даступнасцю;

– выхаваўчае ўздзеянне;

– арыентаванасць на засваенне нацыянальнай культуры ў адзінстве з агульначалавечымі каштоўнасцямі;

– дыферэнцыраванасць;

– развіццё мыслення навучэнцаў.

Былі вызначаны асноўныя якасныя патрабаванні да зместу адукацыі.

*Першае* – стварыць для вучняў магчымасць атрымаць несупярэчныя адказы на тры пытанні: што такое свет, што такое чалавек і хто "я" як чалавек у гэтым свеце. Бо без адказу на гэтыя пытанні асэнсаваны ўдзел асобы ў развіцці грамадства абмежаваны.

*Другое* – навучыць жыць разам у чалавечай супольнасці, развіваючы веды аб усіх народах, іх гісторыі, традыцыях, звычках, ладзе мыслення.

*Трэцяе* – сфарміраваць уменне набываць веды, навучыць самастойна працаваць, каб арыентавацца ў прасторы і часе ў век глабальнай інфарматызацыі, з узмацненнем асабістай адказнасці ў рамках калектыўнай дзейнасці.

Такія задачы былі пастаўлены перад сістэмай у сувязі з тым, што ўдасканаленне школы на старой, інфармацыйнай парадыгме не прыводзіла да станоўчых вынікаў і не змяняла тэндэнцыі, калі вучні пры ўсе большым павелічэнні аб'ёму прапаноўваемых у школе ведаў усё менш ведаюць і ўсё горш карыстаюцца сваімі ведамі на практыцы.

Якія крокі зроблены нашай краінай у перыяд паміж першым і другім з'ездамі настаўнікаў у вырашэнні пастаўленых задач?

За гэты час створаны і прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю адукацыйныя стандарты для школы і рыхтуюцца праекты рознаўзроўневых стандартаў па ступенях навучання і накірунках профільнай дыферэнцыяцыі.

Пры гэтым адзначу, што на базе стандартаў могуць распрацоўвацца розныя варыянты вучэбных праграм, падручнікаў і дапаможнікаў. Але ўсе яны павінны забяспечваць засваенне ўстаноўленых патрабаванняў да ўзроўняў падрыхтоўкі навучэнцаў.

Галоўнай састаўной часткай адукацыйных стандартаў з'яўляюцца асноўныя палажэнні аб структуры базіснага вучэбнага плана для 12-гадовай школы.

Раздзяленне вучэбнага плана на дзяржаўны і школьны кампаненты ставарае падставу для рэалізацыі аднаго з вядучых прынцыпаў пабудовы структуры і зместу адукацыі ў 12-гадовай школе – варыятыўнасці і рознаўзроўневасці навучання пры ўмове, што абавязковая нагрузка на вучня не будзе перавышаць максімальна дапушчальнай. Базісны вучэбны план дазваляе рэалізаваць адно з асноўных палажэнняў рэформы агульнаадукацыйнай школы – ліквідацыю вучэбнай перагрузкі, захаванне і ўмацаванне здароўя школьнікаў. Такая пазіцыя з'яўляецца адной з важных тэндэнцый у фарміраванні школьнага зместу адукацыі.

Азначанае дасягаецца праз памяншэнне максімальнай агульнай тыднёвай нагрузкі вучняў на 1-3 – у пачатковай, 5 – у базавай, 4-6 гадзін у агульнаадукацыйнай школе ў параўнанні з вучэбнымі планамі 11-гадовай школы 90-х гадоў, а таксама памяншэнне працягласці рабочага тыдня вучняў да пяці дзён, што ставарае магчымасць паўнавартаснага адпачынку вучняў за выхадныя дні. Шосты дзень школьнага тыдня можна выкарыстоўваць для заняткаў па інтарэсах. Гэты дзень можа быць як суботай, так і любым іншым днём.

Увядзенне ў вучэбны план трох гадзін фізічнай культуры – таксама адзін з крокаў для захавання здароўя школьнікаў.

Акрамя гэтага, зроблена спроба ўраўнаважыць тры адукацыйныя блокі – веды па асновах навук, цыкл мастацка-эстэтычных дысцыплін і раскрыццё паняццяў аб каштоўнасных арыентацыях. Гэта забяспечваецца больш аптымальнымі, на наш погляд, суадносінамі ў вучэбным плане прыродазнаўча-матэматычнага і гуманітарнага цыклаў прадметаў.

У структуру вучэбнага плана на старшай ступені навучання закладзена ідэя шматпрофільнасці навучання. Розныя тыпы навучальных устаноў, якія існуюць у цяперашні час, дапаўняюцца агульнаадукацыйнымі школамі з профільнымі ліцэйскімі класамі агульнаадукацыйнага, прыродазнаўча-матэматычнага, гуманітарнага і тэхналагічнага напрамкаў дыферэнцыяцыі.

Вядома, што вучням, якія паглыблена вывучаюць літаратуру, мэтазгодна вывучаць, напрыклад, матэматыку ў старэйшых класах менш, чым тым, хто займаецца па прыродазнаўча-матэматычным профілі, але ўсе яны павінны авалодаць інварыянтным узроўнем.

Таму мы пайшлі па шляху вызначэння і падрыхтоўкі як інварыянтнага, так і варыятыўнага навучальна-метадычнага забеспячэння для кожнага з профіляў навучання. Гэта дазваляе аптымізаваць нагрузку вучняў на ўзроўні вучэбных планаў і праграм.

Такім чынам, структура вучэбнага плана агульнаадукацыйнай школы стала дастаткова дынамічнай і варыятыўнай, накіраванай на забеспячэнне інтарэсаў і здольнасцей вучняў, на стварэнне спрыяльных умоў для іх развіцця і рэалізацыі жыццёвых планаў.

Адной з вельмі важных задач, якія вырашаліся паміж з'ездамі, з'яўлялася падрыхтоўка новага вучэбна-метадычнага забеспячэння для 12-гадовай школы.

Між тым, калі мы выйшлі на этап канкрэтных школьных пераўтварэнняў, сталі больш яскрава выяўляцца і надзённыя праблемы.

Узнікла сур'ёзная супярэчнасць паміж імклівым развіццём аб'ёму інфармацыі, магчымасцямі яе засваення за вызначаны прамежак часу і неабходнасцю захавання асноўных элементаў фундаментальных ведаў у школе. Асновы навук не з'яўляюцца сёння адзінай крыніцай фарміравання зместу адукацыі. Таму прынцып непарыўнага следавання зместу школьных прадметаў за дасягненнямі навукі, які да цяперашняга часу быў асноўным, не адпавядае сацыяльнай функцыі школы, бо не супадае з сацыяльнай функцыяй навукі.

Ва ўзнікшай сітуацыі праблема заключаецца менавіта ў дыдактычным канструяванні вучэбнага прадмета, а не ў адаптацыі ведаў "базавай навукі" да школьных патрэб.

Гэта пазіцыя вельмі важная, бо ў змесце адукацыі яшчэ застаўся акцэнт на інфарматыўным кампаненце навучання – ведах. Мноства зместавага матэрыялу па прадметах засланяе найбольш істотнае для агульнай адукацыі, для фарміравання светапогляду асобы.

Стала зразумелым, што традыцыйнае ўдасканаленне зместу школьнай адукацыі ўслед за накапленнем новых ведаў у розных галінах навукі непазбежна цягне за сабой увядзенне новага матэрыялу, а гэта азначае жывучасць перагрузкі вучняў школьнымі ведамі. У гэтай сітуацыі вызначэнне аптымальнага зместу з'яўляецца архіважнай і складанай задачай.

Пры гэтым аказалася відавочным, што выключна экспертныя ацэнкі аднаго-двух рэцэнзентаў не могуць быць асноўнай падставай для ўвядзення вучэбна-метадычных комплексаў (ВМК) у масавую школу. Яны павінны спалучацца з аб'ектыўнымі колькаснымі метадамі і паказчыкамі, якія адлюстроўваюць сацыяльныя запыты па тым ці іншым вучэбным курсе, прадмеце. Такое змяненне працэдуры канструявання змесцу ВМК дазволіла па-новаму падысці да рашэння праблемы распрацоўкі зместу адукацыі.

У адпаведнасці з такой пазіцыяй створана сістэма падрыхтоўкі і эксперыментальнай апрабацыі ВМК.

З мэтай падрыхтоўкі ВМК у адпаведнасці з псіхолагафізіялагічнымі асаблівасцямі вучняў праводзіцца іх эксперыментальная праверка ў 19 школах рэспублікі перад тым, як яны трапяць у масавую практыку. Аналагаў такой дзейнасці няма ў краінах СНД.

Для яе каардынацыі і аказання дапамогі аўтарам падручнікаў і эксперыментальным школам у інстытуце створаны адпаведны аддзел, у функцыі якога ўваходзіць забеспячэнне неабходнага ўзаемадзеяння паміж эксперыментальнымі школамі, аўтарскімі калектывамі і кіраўнічымі структурамі ў адукацыі.

Далейшы лёс падручніка, яго якасць залежаць ад умення і жадання аўтара ўлічыць выказаныя заўвагі. Адной з праблем тут з'яўляецца павышэнне кваліфікацыі аўтарскіх калектываў. Таму, на наш погляд, неабходна пабудова сістэмы псіхалагічнай і дыдактыка-метадычнай падрыхтоўкі аўтараў, вырошчванне аўтарскіх школ. Гэтую функцыю мог бы ўзяць на сябе Нацыянальны інстытут адукацыі пры пэўных змяненнях статусу і структуры. На жаль, сёння ідзе адваротны працэс. Сродкаў на правядзенне далейшай эксперыментальнай апрабацыі падручнікаў не выдзелена.

Што да выніковасці праведзенай працы, то варта гэта адзначыць. Падрыхтаваны эксперыментальныя вучэбна-метадычныя комплексы па ўсіх прадметах вучэбнага плана з 4 па 7 класы па нумарацыі дванаццацігадовай школы, якія ўключаюць: падручнік, метадычны дапаможнік для настаўніка, сшытак альбо дыдактычныя матэрыялы для вучняў, хрэстаматыі. Агульная колькасць падрыхтаваных матэрыялаў – каля 400 найменняў.

Акрамя гэтага, падрыхтаваны больш за 50 найменняў матэрыялаў для дзяцей з асаблівасцямі развіцця ў галіне спецыяльнай адукацыі, у тым ліку і адукацыйныя стандарты. Некаторыя з падрыхтаваных падручнікаў для такіх вучняў сталі лаўрэатамі міжнародных конкурсаў па ўзроўню сваёй метадычнай дасканаласці.

Але ў сувязі з такой вялікай колькасцю падрыхтаваных матэрыялаў узнікае праблема іх выдання для карыстання ў масавай практыцы, бо дзяржаўныя сродкі ў цяперашні час выдзяляюцца пераважна на падручнікі. А што рабіць з астатнімі матэрыяламі?

Агульныя вынікі эксперыментальнай працы дазваляюць канстатаваць: у асноўным назіраецца павышэнне ўзроўню паспяховасці навучання школьнікаў; па-другое, дзецям, а гэта сцвярджаюць і бацькі і настаўнікі, стала больш цікава вучыцца, і яны менш стамляюцца; па-трэцяе у вучняў з'явілася больш магчымасці займацца па інтарэсах у сувязі з пяцідзённым вучэбным тыднем.

Але ёсць пытанні па аб'ёму і складанасці зместу адукацыі па частцы вучэбных курсаў, асабліва ў пачатковай школе. Ідзе праца па давядзенні іх зместу да псіхафізіялагічных магчымасцей вучняў. Ужо падрыхтаваны прынцыпова новы падручнік па курсу "Мая Радзіма Беларусь", перапрацоўваюцца падручнікі па беларускай і рускай мовах для падрыхтоўчага і пачатковых класаў.

Вялікую ролю ў павышэнні якасці адукацыі маюць тэхналогіі адукацыі. За пройдзены пасля першага з'езда час зроблены пэўныя крокі ў асэнсаванні самога паняцця "тэхналогіі", іх тыпалагізацыі і эксперыментальнай праверцы.

Вядзецца актыўная праца па аналізу і ўкараненні найбольш эфектыўных тэхналогій з пазіцыі засваення зместу адукацыі і развіцця здольнасцей вучняў, якая ў навуковым плане курыруецца Нацыянальным інстытутам адукацыі.

Ёсць тут і праблема. Часам за формай, за сюжэтным бокам той альбо іншай тэхналогіі забываецца мэта самога працэсу навучання. У выніку маем з'явы, калі на ўроку вучні адпрацоўваюць сюжэтна-ролевыя гульні, а засваенне зместу ажыццяўляюць дома. Гэта значна павялічвае нагрузку на дзяцей.

Якія асноўныя напрамкі дзейнасці плануецца ажыццявіць у галіне распрацоўкі структуры, зместу і тэхналогій адукацыі і выхавання ў перспектыве? Да іх мы адносім:

– распрацоўку стандартаў, праграм і зместу адзіных рознаўзроўневых падручнікаў для базавага і паглыбленага напрамкаў вывучэння матэрыялу, а таксама вучэбна-метадычных комплексаў па ўсіх прадметах для паглыбленага навучання як асобнай адукацыйнай мадэлі;

– распрацоўку навукова абгрунтаванага пераліку вучэбных курсаў, практыкумаў і прадметаў па выбары і іх адпаведнага вучэбна-метадычнага забеспячэння;

– далейшую аналітычную працу па вызначэнні найбольш эфектыўных тэхналогій для адукацыйнага і выхаваўчага працэсу ў гарадской і сельскай школах і ўкараненне іх у масавую практыку.

Падрыхтоўку рознаўзроўневых вучэбна-метадычных комплексаў плануецца ажыццяўляць на падставе наступных асноўных прынцыпаў: фундаментальнасці, непарыўнасці і пераемнасці адукацыі для ўсіх напрамкаў профільнай дыферэнцыяцыі; узгодненасці падыходаў і адукацыйных стандартаў у кантэксце стварэння адзінай адукацыйнай прасторы Саюза Беларусі і Расіі, краін СНД і Еўрапейскіх супольнасцяў.

Перад сістэмай адукацыі і яе кіраўніцтвам заўсёды стаяць як мінімум дзве задачы: забяспечыць жыццяздольнасць адукацыйнай сістэмы і стварыць умовы для яе развіцця. Гэта дасягаецца агульнымі намаганнямі Урада, Міністэрства адукацыі, мясцовых улад пад кіраўніцтвам і пры непасрэднай падтрымцы Прэзідэнта нашай краіны. Наша агульнаадукацыйная школа, як састаўная частка ўсёй сістэмы адукацыі, пры пэўнай падтрымцы будзе і надалей плённа працаваць і развівацца, уносячы важкі ўклад у развіццё краіны.

# К нам обращаются за помощью и защитой

**Тамара ЧЕБОТОВА,
председатель Белорусского
профсоюза работников
образования и науки:**

— Уважаемые делегаты и гости съезда, дорогие коллеги!

Думаю, многие из Вас, присутствующие на сегодняшнем педагогическом форуме, помнят приподнятую и полную надежд атмосферу I съезда учителей Беларуси. Ведь именно на нем, по сути, был дан старт школьной реформе, которую поддержало и одобрило учительство страны.

Было ясное понимание, что в XXI век молодое суверенное государство должно войти с обновленной системой образования. И верилось, что в начале третьего тысячелетия школа и ее ключевая фигура – учитель – непременно займут главенствующее место в системе приоритетов страны. Уверенность подкреплялась памятным заявлением, сделанным с трибуны съезда Президентом:

"Пусть эти годы, – сказал он, – станут временем коренного перелома в отношении нашего общества к Учителю!". Глава государства пообещал сделать все для создания педагогам максимально благоприятных условий для работы. Вселяла оптимизм и государственная программа "Учитель", разработанная по поручению Президента буквально по горячим "следам" съезда уже в феврале 1998 года.

За эти годы сделано немало для развития системы образования и поддержки социального статуса педагогических работников.

Были выделены средства в размере 10% планового фонда зарплаты на установление стимулирующих надбавок; вдвое увеличены средства на премирование; возросли с 20 до 30% надбавки за стаж работы; введены доплаты за квалификационные категории, повышены оклады за инновационную деятельность.

Но, наверное, каждый из делегатов нынешнего съезда согласится и с тем, что сделанное отнюдь не привело к существенному улучшению материального достатка людей, делающих свое дело не на уровне службы, а на уровне служения Отечеству, ее будущему.

Причина, на наш взгляд, кроется в том, что решение главного социального вопроса – достойного уровня оплаты педагогического труда – часто идет по непродуктивной формуле: "шаг вперед – два шага назад". Как следствие – средняя зарплата педагогов не только не достигла уровня в промышленности, но даже снизилась по сравнению с 1996 и 1997 – годом первого съезда. С 1-го июля 2001 года средняя ставка учителя составила 51 тысячу рублей, а труд молодого специалиста на ставку оценен в 41180 рублей.

А мы все бьемся над вопросом: почему работа в школе ну никак не привлекает выпускников педвузов? Потому что они давно уже поняли, что учитель – это человек с умной головой, но, увы, с пустыми карманами.

Нас, кстати, иногда упрекают в излишне прямолинейных расчетах: мол, учитель никогда не работает на одну ставку. Плюс факультативы, кружки, классное руководство и прочее – "на круг", как говорится, выходит вроде бы не так уж мало. Но что за этим скрывается? Не так давно в одной из минских школ меня познакомили с учителем истории. Дабы содержать семью и чувствовать себя ее кормильцем, он ведет 45 часов в неделю и два классных руководства. Пример далеко не единичный.

Думаю, нетрудно догадаться, что этот изнурительный марафон наносит серьезный урон не только здоровью учителя, но и делу обучения и воспитания в целом. Но даже в условиях повсеместной работы с перегрузкой средняя выплаченная зарплата педработникам по итогам 9-ти месяцев этого года составила только 75% от среднего уровня в промышленности.

С заработной платой тружеников системы образования мы как бы попали в замкнутый круг, из которого никак не можем вырваться. И на предыдущем учительском съезде, как и на всех форумах с участием педагогической общественности, неизменно с болью душевной говорилось и о крайне низких ставках многих работников, и о перманентно возникающей (часто – миллиардной!) задолженности по заработной плате, и об отпусках учителей без своевременной выплаты отпускных, как это проявилось и нынешним летом. Да и о других хронических бедах образования, которые давно стали, что называется, "притчей во взыцех".

В контексте сказанного обнадеживает первое интервью нашего нового Министра образования П.И.Бригадина, подчеркнувшего необходимость сделать решительный шаг в повышении уровня оплаты труда педагогических работников.

ЦК профсоюза надеется, что традиции взаимодействия и сотрудничества министерства и отраслевого профсоюза получат дальнейшее развитие и что мы найдем понимание и поддержку наших предложений, внесенных на рассмотрение II съезда учителей. Они аккумулируют результаты встреч и социологических опросов, обращений в ЦК отраслевого профсоюза.

Во-первых, это сохранение в обновляемой редакции Закона об образовании гарантированного уровня финансирования отрасли и заработной платы педагогических работников. Этому могло бы способствовать поэтапное принятие комплекса мер: повышение ставок и должностных окладов за стаж работы с 30 до 40% (как у госслужащих), увеличение доплат за дополнительные виды педагогического труда, повышение тарификации руководителей учреждений образования и ряд других.

Второй блок предложений нацелен на сохранение рабочих мест. Общеизвестно, что складывающаяся демографическая ситуация чревата сокращением классов-комплектов и даже закрытием дошкольных учреждений и школ, а в конечном счете – грозит учительской безработицей. Чтобы смягчить последствия, мы предлагаем снизить норму рабочего времени воспитателя детских дошкольных учреждений с 36 до 30 часов в неделю, учебную нагрузку учителя – до 16-14 часов, уменьшить наполняемость классов и групп, ввести институт освобожденных классных руководителей – эти меры позволят не только трудоустроить высвобождающиеся кадры, но и повысить качество обучения и эффективность воспитательной работы.

Третья позиция, фактически – это требование выполнения решения I съезда, программы "Учитель" по открытию при каждом областном институте повышения квалификации санаториев-профилакториев.

При все возрастающих психофизических нагрузках на учителя, воспитателя заботиться об укреплении его здоровья не только нравственно, но и экономически выгоднее государству и обществу.

По нашему убеждению, на законодательном уровне следует закрепить решение жилищных проблем учительства.

Для человека педагогической профессии нормальные жилищные условия – это не просто показатель достойного уровня жизни, но, если хотите, неотъемлемая составляющая качественного труда. Нет нужды убеждать, что сложнейшая работа по подготовке к уроку, разработки планов, конспектов, требуют уединения, раздумий, нормальной домашней обстановки. Но для более чем 13 тысяч учителей республики дом – это всего лишь угол в арендованном помещении или общежитии. За последние 4 года очередь среди педагогов выросла и составляет около 23 тысяч.

И до тех пор, пока учитель на свою годовую зарплату сможет условно построить не более 3м² жилья, ему просто жизненно необходима поддержка государства, а это – льготные кредиты, право первоочередного их получения. Равно как и возврат сельским учителям льготы на коммунальные услуги.

У профсоюзов сегодня непростые отношения с властью. Нас не слишком жалуют, как гонцов, нередко приносящих плохие вести. Но если бы этих вестей, то есть фактов, не существовало на самом деле – разве смогли бы мы осенью 2000 года собрать в считанные дни 180 тысяч подписей под заявлением "За достойный уровень оплаты труда в отрасли"?

В нашей жизни порой нелегко найти ответственных за неисполнение законов и государственных программ. А коллективные действия в защиту законных интересов выведены фактически за рамки правового поля. К примеру, в той же Франции профессор Сорбонны спокойно оставляет свою кафедру и идет в профсоюзном марше протеста отстаивать права...

И какие бы сегодня споры ни велись вокруг профессиональных союзов, факт остается фактом: к нам обращаются за помощью и защитой, нам доверяют. Сидящие в зале не дадут слукавить: когда весной и летом этого года в республике сложилась поистине кризисная ситуация с выплатами зарплаты и отпускных, то в первую очередь педагогические коллективы и многие учителя обращались в профсоюзные органы и средства массовой информации. Потому что на местах старались, как говорится, сор из избы не выносить...

Мы, разумеется, отдаем себе отчет, что есть пределы возможного и этапы реализации желаемого. И наш профсоюз, как добросовестный учитель, будет продолжать разъяснять, убеждать и доказывать новой власти, что образованию необходимы, как воздух, дополнительные инвестиции, что невозможно построить школу XXI века на одном энтузиазме педагогических кадров.

Спасибо за внимание.

# Рэфармаванне патрабуе кваліфікаваных кадраў

**Алег ТАЎГЕНЬ,
рэктар Акадэміі
паслядыпломнай
адукацыі:**

— Рэфармаванне школы перш за ўсё патрабуе рэфармавання настаўніка. У сучасных сацыякультурных умовах Беларусі гэта азначае, што развіццё агульнай сярэдняй адукацыі ў значнай ступені вызначаецца тым, наколькі эфектыўна ажыццяўляецца падрыхтоўка ў ВНУ, бесперапыннае павышэнне кваліфікацыі і перападрыхтоўка педагогаў.

У нас ёсць разгалінаваная сетка ВНУ, якія рыхтуюць педагагічныя кадры. Завяршылася станаўленне Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Усё гэта дало магчымасць Акадэміі паслядыпломнай адукацыі стаць галаўным навукова-метадычным і адукацыйным цэнтрам, які забяспечвае развіццё метадычнай службы рэспублікі і сістэмы паслядыпломнай педагагічнай адукацыі.

Завяршаецца пераўтварэнне інстытутаў удасканалення настаўнікаў у інстытуты павышэння кваліфікацыі кадраў адукацыі. Патрэбна адзначыць, што ўсе абласныя інстытуты маюць пэўны патэнцыял для паляпшэння якаснага складу выкладчыкаў кафедр. У прыватнасці, толькі ў аспірантуры Акадэміі паслядыпломнай адукацыі па накіраваннях абласных інстытутаў займаецца на дзённай форме 25 чалавек, завочна – 60, 49 чалавек з'яўляюцца саіскальнікамі. У названую колькасць уваходзяць і 30 супрацоўнікаў абласных ІПК. Гэтыя пераўтварэнні ствараюць аснову для пераводу абласных інстытутаў у рэгіянальныя цэнтры развіцця адукацыі з магутным кадравым і навуковым патэнцыяламі, здольныя аказваць уздзеянне на сістэму адукацыі ва ўмовах рэформы.

Паўсюдна аднаўляюцца раённыя і гарадскія метадычныя кабінеты. Сёння яны функцыянуюць у 125 гарадах і раённых цэнтрах. Усе метадычныя цэнтры аказваюць адукацыйным установам дзейсную педагагічную падтрымку ў працэсах рэфармавання адукацыі. Дзейнасць метадычных кабінетаў накіравана на перавод школы ў новы якасны стан, арыентаваны на каштоўнасці новай адукацыйнай палітыкі, які адпавядае інтарэсам вучняў, педагогаў, дзяржавы і грамадства.

На прынцыпова новай аснове будуюць сваю работу школьныя метадычныя аб'яднанні. У адных школах, асабліва новага тыпу, уведзена пасада намесніка дырэктара па навукова-метадычнай рабоце, у другіх, якія супрацоўнічаюць з вышэйшымі педагагічнымі ўстановамі, створаны адпаведныя кафедры, функцыянуюць школьныя псіхалагічныя службы.

Асноўную ўвагу школьныя метадычныя аб'яднанні звяртаюць на асваенне настаўнікамі і ўкараненне ў практыку новых адукацыйных тэхналогій. У школы прыходзяць вучоныя, метадысты раёна, вобласці, рэспублікі, выкладчыкі ВНУ, аспіранты для правядзення даследаванняў, для арганізацыі семінараў-практыкумаў, семінараў-трэнінгаў, для правядзення навукова-практычных канферэнцый, нарад і кансультацый.

У некаторых школах традыцыйныя метадычныя аб'яднанні, як ужо гаварылася, пераймаваны ў кафедры. І там, дзе на кафедры працуюць вучоныя, дзе праводзяцца адпаведныя даследаванні, гэта мэтазгодна і абгрунтавана. Аднак многія нядаўна створаныя школьныя кафедры аб'ядноўваюць толькі школьных настаўнікаў розных прадметаў і вядуць традыцыйную работу па формах і па змесце. Больш аслабленай аказваецца метадычная работа па прадмеце і не становіцца больш эфектыўнай работа па ўзмацненні агульнадыдактычнай падрыхтоўкі настаўнікаў. Такім чынам, простая замена назвы на больш модную і навуковую не заўсёды прыводзіць да больш высокага ўзроўню і вынікаў работы.

Адзін з напрамкаў дзейнасці навучальных устаноў паслядыпломнай адукацыі – перападрыхтоўка кадраў з улікам рэформы школы і спецыфікі развіцця агульнаадукацыйнай сістэмы ў рэгіёнах рэспублікі. Вызначыўся шэраг найбольш запатрабаваных спецыяльнасцей перападрыхтоўкі: інфарматыка, практычная псіхалогія, сацыяльная педагогіка, дэфекталогія, замежныя мовы. За 1998-2000 гады атрымалі новую кваліфікацыю больш як дзве тысячы педагагічных работнікаў. Работа навучальных устаноў паслядыпломнай адукацыі ў галіне перападрыхтоўкі педагагічных кадраў характарызуецца навукова абгрунтаваным фарміраваннем зместу, форм і метадаў навучання, высокім узроўнем кваліфікацыі выпускнікоў.

Аднак сёння настолькі імклівыя перамены ў свеце і ў нашай краіне, што неабходна пастаянная перакваліфікацыя і перападрыхтоўка кадраў. Надышоў час рэальнага ажыццяўлення формулы "Адукацыя праз усё жыццё". У сувязі з гэтым інстытутам сістэмы павышэння кваліфікацыі работнікаў адукацыі трэба вырашыць шэраг праблем.

Першая. Забеспячэнне кафедр інстытутаў павышэння кваліфікацыі навукова-педагагічнымі кадрамі. Гэта недапушчальна, што сёння большасць навуковых супрацоўнікаў кафедр не маюць навуковых ступеняў і званняў. Больш за тое, значную колькасць работнікаў кафедр складаюць людзі пенсійнага або перадпенсійнага ўзросту. Гэта выклікана ў першую чаргу тым, што адсутнічае паўнацэннае матэрыяльнае стымуляванне высокакваліфікаваных педагагічных кадраў. Наспела неабходнасць стварэння нарматыўна-прававых актаў аб паслядыпломнай педагагічнай адукацыі.

Другая. Максімальна наблізіць змест заняткаў да патрэбнасцей і запытаў рэфармуемай школы. Чаго грахі ўтойваць, часта інфармацыя, якую педагогі атрымліваюць у інстытутах павышэння кваліфікацыі, не носіць апераджальнага характару, што не садзейнічае павышэнню іх прафесійнага ўзроўню.

Трэцяя. У існуючай сацыяльна-культурнай сітуацыі неабходна ўзмацніць філасофска-метадалагічны кампанент у сістэме паслядыпломнай адукацыі. Ён садзейнічае развіццю ў педагогаў культуры мыслення, здольнасці аналізаваць дынамічныя адукацыйныя працэсы.

Чацвёртая. У змесце павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў першаступенную ўвагу трэба надаць навучанню актыўнаму, самастойнаму пошуку інфармацыйных тэхналогій. Менавіта на вопыце актыўнага пошуку інфармацыйных тэхналогій забяспечваецца станаўленне і развіццё прафесіяналізму педагогаў, развіццё іх як даследчыкаў, здольных практычна інтэрпрэтаваць сучасныя навуковыя дасягненні, ажыццяўляць аналітычную і тэхналагічную дзейнасць.

Пятая. У сістэме перападрыхтоўкі педагагічных кадраў трэба пераходзіць ад монаадукацыі да поліадукацыі. Вузкая спецыялізацыя, напэўна, магчыма на першай ступені атрымання спецыяльнасці, але мала карысная на больш позніх этапах навучання. Зменлівая кан'юнктура рынку, змяненне жыццёвых прыярытэтаў, звязанае, у тым ліку, і з набыццём вопыту рэальнай прафесійнай дзейнасці, будзе перажыта значна больш лёгка ў выпадку поліадукацыі.

Шостая. Асаблівую ўвагу ў сістэме павышэння кваліфікацыі педагогаў трэба ўдзяляць праблемам выхавання. Выхаванне – гэта не асобны від дзейнасці, а функцыя любой педагагічнай дзейнасці. З гэтай мэтай неабходна кожнага педагагічнага работніка знаёміць з асаблівасцямі і праблемамі выхавання сучасных дзяцей. Сёння правядзенне выхаваўчай работы неабходна не толькі ў школе, але і ў соцыуме, дзе больш за ўсё знаходзіцца дзіця. Максімальнае ўключэнне ўсёй адукацыйна-выхаваўчай прасторы ў працэс выхавання школьнікаў дазволіць не толькі палепшыць функцыянаванне школы як адкрытай сацыяльна-педагагічнай сістэмы, але і актыўна ўплываць на сацыяльнае асяроддзе, змяняючы яго з пазіцый адукацыі. Гэта дапаможа хутчэй і эфектыўней вырашаць складаныя сацыяльна-эканамічныя задачы грамадства і дзяржавы.

Сёмая. Адукацыйным установам сістэмы павышэння кваліфікацыі трэба лічыць прыярытэтнай задачай развіццё Internet, укараненне камп'ютэрных тэхналогій у працэс навучання; павышэнне кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі ў галіне сучасных камп'ютэрных тэхналогій.

Сёння ўсё больш актуалізуецца праблема станаўлення і развіцця прафесіяналізму настаўнікаў, што звязана са зменлівым характарам сацыяльнага заказу школе і з неабходнасцю вырашэння школай новых адукацыйных задач. Па аб'ектыўных прычынах педагагічныя ВНУ не могуць у дастатковай ступені забяспечыць будучым спецыялістам эфектыўнае авалоданне новым зместам і спосабамі дзейнасці ў рэфармуемай школе. Гэта абумоўлена тым, што неабходнай умовай прафесійнага росту педагога з'яўляецца асэнсаванне і развіццё ім уласнага вопыту педагагічнай дзейнасці. Аднак, акрамя таго, ёсць і шэраг суб'ектыўных прычын, якія абумоўліваюць невысокі ўзровень кваліфікацыі выпускнікоў. Па-першае, абнаўленне вучэбных праграм у ВНУ адбываецца надзвычай марудна, таму яны не аператыўна рэагуюць на праблемы, змены і прагрэс у соцыуме, у навуцы і педагагічнай практыцы. Выпускнікі педагагічных ВНУ валодаюць павярхоўнай падрыхтоўкай у галіне сучасных інфармацыйных тэхналогій і не маюць вопыту работы ў галіне практычнага і метадычнага выкарыстання камп'ютэрных праграмна-метадычных комплексаў па навучанні асобным прадметам.

Не забудзем, што на двары XXI стагоддзе! Да гэтага часу не вырашана праблема падрыхтоўкі настаўніка як дырэктара школы. У нас увогуле адсутнічае падрыхтоўка кіраўнікоў адукацыйных устаноў.

Наступная праблема заключаецца ў тым, што сучасны спецыяліст нярэдка па-ранейшаму зарыентаваны толькі на прыярытэт ведаў і не заўсёды можа аказаць дапамогу дзецям і бацькам у сацыялізацыі вучняў, выхаванні ў іх неабходных для сучаснага жыцця асобасных якасцей і адпаведных жыццёвых навыкаў. Ідэалагічная ж разгубленасць дарослых, невалоданне імі метадамі і тэхналогіямі фарміравання сацыяльных навыкаў правакуе моладзь на самастойныя пошукі дасягнення сваіх мэт, не заўсёды адэкватных і бяспечных.

Усё гэта абумоўлівае павелічэнне ролі сістэмы павышэння кваліфікацыі ў рэалізацыі рэформы агульнаадукацыйнай школы.

Наогул, адной з галоўных тэарэтычных і практычных праблем бесперапыннай адукацыі на сучасным этапе з'яўляецца забеспячэнне пераемнасці паміж сістэмамі агульнай сярэдняй, вышэйшай педагагічнай адукацыі і павышэння кваліфікацыі работнікаў адукацыі.

Адным са шляхоў вырашэння гэтай праблемы з'яўляецца той, пры якім функцыі павышэння кваліфікацыі педагогаў перадаюцца педагагічным ВНУ. Аднак ёсць, на нашу думку, сур'ёзныя аргументы супраць такога шляху вырашэння гэтых праблем. Па-першае, аб'ектыўны аналіз вопыту 70-80 гадоў (наяўнасць факультэта павышэння кваліфікацыі дырэктараў сярэдніх школ у Мінскім педінстытуце, які не змог вырашыць праблему падрыхтоўкі настаўніка як дырэктара школы, а таксама спроба аб'яднання Віцебскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў з Віцебскім педінстытутам і г.д.) паказвае, што ў ВНУ няма вопыту павышэння кваліфікацыі, няма адпаведных педагагічных кадраў і традыцый для арганізацыі павышэння кваліфікацыі педагогаў. Па-другое, адукацыйныя праграмы ў сістэме павышэння кваліфікацыі хоць і ўніфікуюцца на аснове дзяржаўных стандартаў, але ў той жа час прапануюць педагогам і кіраўнікам адукацыйныя паслугі ў адпаведнасці з іх патрэбнасцямі і запытамі, з правам выбару.

Усё гэта вызначае прыярытэтнасць галоўных сацыяльна-педагагічных задач, якія павінны вырашацца менавіта ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі і абласных інстытутах. Гэта:

– падрыхтоўка кіраўнікоў (менеджэраў) адукацыі, якія ўваходзяць у рэзерв кіруючых кадраў, які пастаянна абнаўляецца;

– стварэнне арганізацыйна-педагагічных умоў для прафесійнай адаптацыі маладых спецыялістаў, станаўлення і развіцця прафесіяналізму педагогаў;

– псіхолага-педагагічная падтрымка інавацый, настаўнікаў-эксперыментатараў;

– асваенне педагогамі і кіраўнікамі новых педагагічных, інфармацыйных і выхаваўчых тэхналогій;

– перападрыхтоўка педагогаў па дэфіцытных спецыяльнасцях;

– падрыхтоўка спецыялістаў на базе сярэдняй спецыяльнай педагагічнай адукацыі.

У сувязі з апошнім уяўляецца цікавым разгледзець пытанне аб увядзенні ў структуру Акадэміі паслядыпломнай адукацыі педвучылішча або педкаледжа.

Зроблена вялікая работа па абнаўленні зместу адукацыі ў агульнаадукацыйных школах, звязаная з пераходам на 12-гадовы тэрмін навучання. Распрацаваны новы вучэбны план, праграмы, вучэбна-метадычныя комплексы. Вядзецца вялікая эксперыментальная работа па апрабацыі новых вучэбна-метадычных комплексаў на эксперыментальных пляцоўках. Разам з тым, працуючы кожны дзень з настаўнікамі-практыкамі, прадметнікамі, абагульняючы іх пажаданні, мы бачым, што ёсць асобныя недахопы, якія неабходна ліквідаваць як мага хутчэй.

У сувязі з пераходам на новую структуру пачатковай школы (падрыхтоўчы, 1-3 класы) узнікла неадпаведнасць патрабаванняў да напаўняльнасці класаў у падрыхтоўчых і 1-3 класах.

Па нарматыўных дакументах напаўняльнасць у падрыхтоўчым класе, які працуе на базе дашкольнай установы, не павінна перавышаць 20 чалавек, у агульнаадукацыйных школах – 25 чалавек. Напаўняльнасць у 1-3 класах – 25 чалавек.

Пры пераходзе з дашкольнай установы ў агульнаадукацыйную школу (такіх падрыхтоўчых класаў большасць) востра паўстае пытанне аб захаванні кожнага асобна ўзятага класа (іх расфарміроўваюць, аб'ядноўваюць з-за адсутнасці неабходнай колькасці вучняў).

Патрабуюць дапрацоўкі і перавыдання (такая работа ўжо вядзецца) вучэбныя праграмы для пачатковых класаў.

Вучэбныя праграмы павінны адпавядаць стандартам, якія для 12-гадовай школы яшчэ толькі распрацоўваюцца.

<u>Першачарговая задача</u> – зніжэнне вучэбнай нагрузкі ў 1 класе 12-гадовай школы (асабліва ў 1-м паўгоддзі).

Трэба распрацаваць новую нарматыўна-прававую базу для ажыццяўлення дзейнасці груп прадоўжанага дня.

Неабходна ўзгадніць з медыкамі гігіенічныя патрабаванні да арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу, абсталявання класных памяшканняў для школ, якія працуюць па новых тэхналогіях навучання.

Чакае свайго часу распрацоўка вучэбна-метадычных, дыдактычных матэрыялаў у дапамогу настаўніку малакамплектнай пачатковай школы (настаўніку даводзіцца адначасова працаваць з дзецьмі рознага ўзросту). Ёсць асобныя хібы ў распрацоўцы падручнікаў па прадметах. Мае месца акадэмізм усіх цяперашніх падручнікаў па біялогіі.

Адным з галоўных недахопаў у рэфармуемай школе з'яўляецца наступнае: праграмы па розных прадметах распрацаваны і апрабіруюцца на эксперыментальных пляцоўках, аднак яны дагэтуль не адпавядаюць адна адной. У выніку адзінай праграмы для агульнаадукацыйнай школы няма.

Аднак трэба адзначыць, што мы валодаем неабходным патэнцыялам, высокакваліфікаванымі кадрамі для таго, каб пазбавіцца названых недахопаў і прадоўжыць рух наперад.

